

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 39 (674) 6 КАСТРЫЧНІКА 2004 г.

# НА ХВАЛІ АДРАДЖЭННЯ

**30 жніўня споўнілася 60 гадоў сябру Таварыства беларускай мовы, арганізатару першаснай суполкі ТБМ на кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускага універсітэта культуры Рыгору Фёдаравічу Шауру. Грамадская актыўнасць прафесара Шауры арганічна знітаваная з ягонай працоўнай дзейнасцю і з'яўляецца неад'емным складнікам усяго яго шматграннага жыцця.**



Свой юбілей Рыгор Фёдаравіч адзначыў персанальнай выставай "Мой родны кут", адкрыццё якой адбылося 21 верасня ў мастацкай галярэі універсітэта. Мастак працуе ў акварэльным жывапісе. У сваіх творах ён апявае любыя яму мясціны, Лепельшчыну, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады, дзе ў сваёй роднай вёсачцы Малы Поўсвіж скончыў сямігодку. Малая Радзіма – назаўсёды ў сэрцы сына сваёй зямлі. Адсюль пайшоў ён у вялікі свет. Сцяжынка ў творчае жыццё майстра бярэ свой пачатак з Віцебскага педагагічнага інстытута, дзе ён атрымаў прафесійную адукацыю. Спадар Шаура шмат працуе творча, удзельнічае ў мастацкіх выставах, з цягам часу становіцца сябрам Беларускага саюза мастакоў. Аднак сказаць пра яго толькі як пра мастака, значыць не сказаць амаль нічога. У асобе гэтага творцы гарманічна спалучаецца некалькі іпастасяў. Ён да таго ж – мастацтвазнаўца, навуковец, педагог, выхавальнік. Да вышыняў, якіх дасягнуў у сваім жыцці Рыгор Фёдаравіч, ён ішоў упэўнена і мэтанакіравана. Шмат дзе давялося папрацаваць. Цяпер ён узначальвае кафедру дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва БДУ культуры, дзе працуе з 1977 года. Па ягонай ініцыятыве ва універсітэце распачата падрыхтоўка спецыялістаў па народных рамёствах і рэстаўрацыі мастацкіх твораў. Пад кіраўніцтвам Рыгора Фёдаравіча адраджаюцца і развіваюцца традыцыі абварной і задымленай керамікі, саломапляцення, узорнага ткацтва ды інш. Рыгор Шаура спраўдзіўся як навуковец і мастацтвазнаўца. Ягонаму пяру належаць 8 манаграфій, у тым ліку "Гаўрыла Вашчанка", "Альгерд Малішэўскі", "Леанід Дударанка". Падрыхтаваная да выдання манаграфія "Дэкаратыўны і станковы жывапіс у народным мастацтве Беларусі XIX – XX стагоддзяў". Ён з'яўляецца аўтарам вучэбнага дапаможніка для вучняў мастацкіх школ "Перспектыва ў малюнку і жывапісе", а таксама кнігі для настаўнікаў "Малюнак у навучальным працэсе".

Шмат цёплых слоў было сказана пры адкрыцці выставы мастака, прафесара Рыгора Фёдаравіча Шауры. У іх любоў і павага і спадзеў на плённае творчае жыццё, актыўную навуковую і педагагічную дзейнасць. Прыемна, што Беларускі універсітэт культуры валодае кадрамі, якія не цураюцца роднай мовы. Усе – ад рэктара Ядвігі Грыгаровіч да студэнтаў - нязмушана і прыгожа прамаўлялі па-беларуску. І выступленне прадстаўніка Лепельскай вертыкалі Веры Іванаўны па-руску ўспрымалася — думаю, што не толькі мной — неяк штучна, як бы з другой краіны, а не з родных мясцін мастака.

***ІрМа.***

**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць прафесара Рыгора Фёдаравіча Шауру з гадамі сталасці і мудрасці ды зычаць далейшага шчаслівага лёсу.**

---

1 кастрычніка 2004 г. № ____

*Спн. **Святлане Яскевіч***
*Галоўнаму рэдактару газеты "Раніца"*
*220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77*

**Паважаная спадарыня Святлана!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" віншуе Вас і ў Вашай асобе калектыў "Раніцы" з юбілеем газеты, 75-годдзем ад часу яе заснавання.

Да 1993 года газета выходзіла пад назвай "Піянер Беларусі", што адпавядала духу і запатрабаванням таго часу. Новая ж назва вельмі трапна дапасуецца да ўзроставага цэнзу чытачоў-падлеткаў, якія перажываюць "раніцу" свайго жыцця.

Шлях у 75 гадоў немалы. На ім было шмат розных пераменаў. Нязменным заставалася толькі адно — мова выдання. І на сёння "Раніца" — адзіная газета для падлеткаў, якая выходзіць на мове тытульнай нацыі і разам з тым можа скласці канкурэнцыю любому газетнаму выданню.

Жадаем Вам, шаноўныя стваральнікі газеты, заўсёды заставацца маладымі душой і так тонка разумець дзіцячую псіхалогію, інтарэсы і захапленні сваіх чытачоў.

Плёну, дабрабыту і светлай будучыні такому неабходнаму і значнаму выданню як газета **"Раніца"**.

З павагай
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
Алег Трусаў

---

**6 кастрычніка** а **16.00** гадзіне
у Літаратурным музеі Янкі Купалы
адбудзецца вечарына - прэзентацыя новай паэтычнай кнігі Ірыны Багдановіч

## *"Сармацкі Альбом"*



*У гэтай кнізе ўжо ўсё гісторыя.*
*Даўняя і нядаўняя.*
*Гэта гісторыя мінулых стагоддзяў.*
*Гісторыя кахання і смутку,*
*змагання і паражэння, душы і Айчыны.*
*Але Гісторыя такая Пані, якая любіць,*
*каб яе ведалі і паважалі.*

---

# Змагар за беларускую мову прафесар Павел Сцяцко ўзнагароджаны медалём Ф. Скарыны

27 верасня прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджванні, паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы.



За высокія дасягненні ў прафесійнай дзейнасці, значны ўнёсак у развіццё і памнажэнне духоўнай і культурнай спадчыны беларускага народа медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны загадчык кафедры беларускай мовы і тэарэтычнага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы **Павел Сцяцко.**

Доктар філалагічных навук, прафесар, выдатнік народнай асветы Рэспублікі Беларусь пасля заканчэння ў 1953 годзе беларускага аддзялення факультэта мовы і літаратуры Гродзенскага педінстытута за паўстагоддзе працы на ніве беларускага мовазнаўства П. У. Сцяцко зрабіў столькі, што мог бы ўжо разы тры па ордэну атрымаць, але, як кажуць, дзякуй і за медаль.

Асабліва актуальныя яго кнігі апошніх гадоў "Праблемы нормы, культуры мовы", "Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы", "Культура мовы".

Павел Сцяцко найактыўнейшы сябар ТБМ, узначальваў Гарадзенскую абласную арганізацыю ТБМ, сталы сябар рэдкалегіі і найактыўнейшы аўтар газеты ТБМ "Наша слова".

Узнагарода паспела да Дня настаўніка. З гэтай нагоды трэба адзначыць, што Павел Уладзіміравіч ужо доўгія гады з'яўляецца найаўтарытэтнейшым настаўнікам усіх мовазнаўцаў Беларусі.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Паўла Уладзіміравіча Сцяцко з Дзяржаўнай узнагародай.

---

Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы
Філалагічны факультэт
**11 сакавіка 2005 года**
**З нагоды 75-годдзя доктара навук, прафесара Паўла Сцяцко**
Рэспубліканская навуковая канферэнцыя
**"Надзённыя пытанні беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства"**

Тэматыка канферэнцыі:
- Словаўтварэнне.
- Лексікалогія і фразеалогія.
- Анамастыка.
- Культура мовы.
- Міжмоўныя стасункі.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі і матэрыялы выступленняў просім даслаць да 01.12.2004 г. Аб'ём матэрыялаў - да 4 старонак фармату А4. Тэкст набраны на кампутары 12 кеглем Times New Roman праз 1,5 інтэрвала. Усе палі (верхняе, ніжняе, левае і правае) - па 2,5 см. Першы радок - ініцыялы і прозвішча аўтара, у дужках - горад. Праз радок - назва артыкула. Абзацнае адступленне 1,25 см. Зноскі падаюцца ў тэксце ў квадратных дужках. Пасля асноўнага тэксту ідзе спіс выкарыстанай літаратуры. Просьба разам з экзэмплярам раздрукоўкі даслаць і дыскету (будзе вернута падчас канферэнцыі). Зборнік плануецца выдаць да пачатку канферэнцыі. Аўтарскі ўнёсак - 5 у. а.

Наш адрас: 230023, г. Гродна, вул. Леніна, 32, кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства, Гапон Таццяне Іванаўне. Тэлефон 44-26-51.

**Аргкамітэт.**



№ 39 (674) 6 КАСТРЫЧНІКА 2004 г. Наша слова

# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

***Падрыхтавала Ірына Марачкіна***

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**1995 год.**

**11 красавіка.**

У Вярхоўным Савеце, як пратэст супраць рэферэндуму, пачалася галадоўка 18 дэпутатаў ад апазіцыі. Сярод іх бальшыня — сябры ТБМ.

**Красавік.**

Дэлегаты канферэнцыі Маладзечанскай філіі ТБМ прынялі зварот "Не ствараймце канфрантацыі вакол моўнага пытання!" да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі і старшыні Вярхоўнага Савета М. Грыба.

ТБМ увайшло ў склад Аргкамітэту па святкаванні 50-х угодкаў Перамогі над гітлерызмам. Ініцыятар стварэння грамадскага Аргкамітэту - Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў

**18-19 траўня.**

ТБМ брала ўдзел у арганізацыі і правядзенні Другой нацыянальнай канферэнцыі "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі", у якой удзельнічалі звыш ста навукоўцаў, у тым ліку 27 дактароў і каля 60 кандыдатаў навук. Матэрыял пра канферэнцыю змешчаны ў "Нашым слове" № 25 1995 г. Прынята адпаведная заява.

**23 траўня.**

На паседжанні сакратарыята ТБМ разгледжана пытанне "Аб дзейнасці арганізацый ТБМ у сувязі з вынікамі рэферэндуму па моўным пытанні". Прынята рашэнне аб правядзенні "круглага стала" "Моўная палітыка ў Беларусі і задачы грамадскіх арганізацый" і падрыхтоўцы адпаведных рэкамендацый для ўсіх арганізацый і актывістаў ТБМ.

**25 траўня.**

Сакратарыят ТБМ звярнуўся па дапамогу да ўсіх камерцыйных структур, фірм, сумесных прадпрыемстваў, банкаў, усіх грамадзян, каму дарагія родная мова, нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны з прычыны спынення падтрымкі з боку дзяржавы. Прыпынена фінансаванне газеты "Наша слова". Навісла пагроза над кіёскам ТБМ, што на праспекце Скарыны. Арэнда памяшкання, камунальныя паслугі патрабуюць велізарных грошай.

**Травень.**

У Наваполацку аднавілі гарадскую суполку ТБМ. Старшынёй абраная пісьменніца Ірына Жарнасек.

**28 чэрвеня.**

З нагоды рэферэндуму "Наша слова" змясціла зварот ТБМ да бацькоў і настаўнікаў "Эканамічны дабрабыт залежыць ад разумнай будовы грамадства і гаспадаркі" і зварот да грамадзян Беларусі "А хто пытаўся галасоў нашых продкаў і нашых нашчадкаў?"

**Чэрвень.**

У Доме літаратара прайшло паседжанне Камітэта абароны беларускай мовы. Удзельнікі занепакоеныя тым, што рэферэндум узаконіў прыярытэт расійскай мовы перад беларускай. Прынята заява "Лёс роднай мовы і задачы грамадскіх арганізацый".

З-за адсутнасці фінансавання не выйшлі 18, 19, 20, 21, 22, нумары "Нашага слова".

**10 жніўня.**

Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы звярнуўся да грамадзян Беларусі з заклікам падтрымаць родную мову, найперш вучачы сваіх дзетак па-беларуску, сказаць сваё рашучае, важкае слова ў абарону самага святога – матчынай мовы.

**6 кастрычніка.**

У памяшканні Дома літаратара адбыўся IV з'езд ТБМ. Бралі ўдзел дэлегаты ад 132-х рэгіянальных арганізацыяў. Яны абмеркавалі стан роднай мовы, актуальныя праблемы беларушчыны ды супрацьстаяння русіфікацыі. З'езд прыняў пастанову, зварот да выбаршчыкаў. Старшынём зноў абраны Ніл Гілевіч.

**21 снежня.**

На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ, абранай на IV з'ездзе, быў зацверджаны сакратарыят, галоўны рэдактар (Эрнэст Ялугін) і рэдакцыйная калегія газеты "Наша слова". Вызначаныя першачарговыя задачы: ператварыць ТБМ у шырокую і масавую арганізацыю, шукаць шляхі да паляпшэння яе матэрыяльна-фінансавага становішча.

**1996 год.**

**11 студзеня.**

На першым паседжанні Сакратарыята ў новым складзе, пасля IV з'езда ТБМ, абмяркоўвалася пытанне аб арганізацыі канферэнцыі, прысвечанай стану беларускай мовы, а таксама фінансавыя справы, звязаныя з дзейнасцю сп. Яўгена Цумарава.

**14 лютага.**

На паседжанні Гарадзенскай рады ТБМ у рамках гарадской арганізацыі створана грамадскае аб'яднанне Таварыства беларускай вышэйшай школы, якое мае за мэту ўмацоўваць справы беларускамоўнага выкладання ў ВНУ. Старшынём абраны прафесар А. Астроўскі. Прыняты зварот да Старшыні Вярхоўнай Рады Беларусі С. Шарэцкага і старшыні Гарадзенскага аблвыканкама А. Дубко.

*(Працяг у наступным нумары.)*

## ВІНЦУК ВЯЧОРКА ПАДАРАВАЎ ТБМ ШЧУПАКА

Менск, 29 верасня. У Доме літаратара адбыўся святочны бардаўскі канцэрт, зладжаны Таварыствам беларускае мовы імя Францішка Скарыны і прысвечаны 15-годдзю аднае з найбольш значных грамадскіх арганізацыяў краіне. Канцэрт адкрыў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Выступілі Эдуард Акулін, Кася Камоцкая, Алесь Камоцкі, Галіна і Барыс Вайханскія. Сярод выканаўцаў была і Лера Сом, паэтка, спявачка, педагог, якая балатуецца ад Партыі БНФ у Палату прадстаўнікоў па Полацкай выбарчай акрузе.

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка павіншаваў Таварыства беларускае мовы і перадаў сп. Трусаву сімвалічны падарунак. Вось словы В. Вячоркі

*"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны – адна з найбольшых грамадскіх арганізацыяў Беларусі. У нармальнай грамадзянскай супольнасці – а ТБМ складае яе частку – людзі ствараюць арганізацыі для вырашэння значных і балючых праблемаў. Шматлюднасць і геаграфічная структураванасць ТБМ сведчыць, што арганізацыю турбуе адно з ключавых пытанняў жыцця беларускага народу.*

*Дзясяткі тысячаў інтэлігентаў і патрыётаў — сяброў ТБМ усіх магчымых узростаў і прафесіяў, ці нават просты пералік імёнаў лідараў нашай арганізацыі – Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Алег Трусаў – пераканаўча зняпраўджваюць абуральную заяву, зробленую пару дзён таму з чырвона-зялёнае трыбуны. Маўляў, іхная (тае трыбуны) заслуга, што патрыятызм больш не атаесамляецца з беларускаю моваю. Насамрэч з нашаю моваю не атаесамляецца – на шчасце – халуйства паслугацтва, якое сталі чамусьці называць патрыятызмам.*

*Бараніць права на родную мову – годная і ахвярная справа, якая не прыносіць мінучага дабрабыту, якую могуць рабіць толькі людзі з каштоўнасцямі ў душы. Таму ў ТБМ прынцыпова не можа быць цынікаў. Партыя БНФ, верная беларускай справе, а таксама рашэнням першага з'езду Народнага Фронту ў 1989 годзе, які падтрымаў ідэю стварэння ТБМ, была, ёсць і будзе выразнікам інтарэсаў Таварыства на палітычным роўні. Ад імя ўсіх франтаўцаў шчыра віншую Таварыства з гадавінай. Упэўнены, што ТБМ абавязкова запіша ў гісторыю нашае краіны самую прынцыповую перамогу: вяртанне нашай мове незаконна забранага ў яе статусу адзінай дзяржаўнай.*

*У якасці сімвалічнага падарунку Таварыству я прынёс ... шчупака! Ён на тое, каб не драмалі ўсялякія чыноўныя карасі, затлусцелыя печкуры і каб не пачуваліся вольна прыблудныя піранні. Шчупак марскі, з латвійскіх тэрытарыяльных водаў. Дык жа хай адкрыецца перад намі мора перспектываў для нашае мовы – у будучыні (як латыская цяпер!) аднае з афіцыйных моваў Еўрапейскага Звязу. Жыве Беларусь!"*

***Наш кар.***

# *Беларуская мова гучыць у Швецыі*

На пачатку ліпеня ў Стакгольме адбыўся ўстаноўчы сход Звязу беларусаў Швецыі, арганізацыі, якая аб'яднала ўсіх беларусаў, што сёлета апынуліся ў гэтай паўночнай краіне. Ініцыятарам падзеі сталі новыя эмігранты, аднак доступ у шэрагі арганізацыі адчынены для ўсіх свядомых беларусаў, хто на чужбіне не забыў сваю Бацькаўшчыну. Гэта азначае, што яшчэ адну краіну можна залічыць да шэрагу дзяржаў, дзе існуе арганізаваная, актыўная беларуская прысутнасць .

Звяз складаюць вельмі актыўныя, адукаваныя людзі , якія працуюць на карысць Беларусі, нягледзячы на тое, што яны далёка ад Радзімы. І вельмі шкада, што яны засталіся незапатрабаванымі ў сваёй краіне. Сярод іх ёсць журналісты, палітыкі, творчыя людзі. Стала ўжо традыцыяй, што да кожнай новай акцыі з'яўляюцца новыя тэматычные вершы на беларускай мове. Маюцца кантакты з беларусамі Нарвегіі, і зараз ужо абмяркоўваецца пытанне, каб аб'яднаць Звяз беларусаў Швецыі з беларусамі Нарвегіі і зрабіць супольны Звяз беларусаў Скандынавіі. Распрацоўваецца праект, што дапаможа беларусам, якія нядаўна прыехалі ў Швецыю, з адаптацыяй у шведскім грамадстве і працаўладкаваннем, таксама, магчыма, юрыдычная дапамога. Звяз беларусаў Швецыі вядзе культурна - асветную і палітычную дзейнасць. Сябры Звязу вывучаюць культурна - гістарычныя адносіны паміж Швецыей і Беларуссю.

У цяперашні час шведы з'яўляюцца незалежнымі і сацыяльна забяспечанымі людзьмі. І ў сваёй большасці гэта ветлівая і жыццёва радасная нацыя, багатая сваімі традыцыямі, звычаямі. Яны вельмі любяць сваю краіну, аб гэтым гаворыць тое , што амаль у кожнага ў кватэры знаходзіцца нацыянальны сцяг. Швецыя член Еўразвязу. Еурапейскія навіны транслююцца на ангельскай мове, на ангельскай мове транслююца мастацкія фільмы. Але разам з гэтым існуе і вялікая колькасць нацыянальных каналаў. Паміж сабой шведы размаўляюць выключна на шведскай мове. Не спяшаецца Швецыя пераходзіць на адзінае еўра, эканамічная палітыка накіравана на захоўванне сваёй грашовай адзнакі кроны.

Карані гістарычных адносін паміж Швецыяй і Беларуссю ідуць далёка ў часы вікінгаў. Праз раку Дзвіну пралягаў гандлёвы шлях скандынаваў да Чорнага мора. Некаторыя з іх каля Дзвіны засноўвалі нават свае паселішчы. У дакладным перакладзе з шведскай Беларусь гучыць як Белая Русь. Сёння ў Швецыі не вельмі шмат ведаюць пра нашу краіну, пра тое становішча, што зараз ёсць . На пытанне, што шведы думаюць пра Беларусь, пануе думка што гэта апошняя краіна ў Еўропе, дзе кіруюць камуністы. Сябры Звязу робяць усё магчымае, каб шведы ведалі больш пра нашу краіну, прымаюць удзел у прэс-канферэнцыях, у семінарах. Вялікую дапамогу Звязу беларусаў у Швецыі аказвае вядомы шведскі журналіст Тобіяс Люнгвал. Ен з'яўляецца аўтарам кнігі "Справаздача з Беларусі". За гэтую кнігу беларускія ўлады забаранілі Тобясу Люнгвалу ўезд у Беларусь. З дапамогай шведскага журналіста друкуюцца публікацыі аб становішчы ў Беларусі. 22 -га ліпеня выйшаў вялікі артыкул у адной з самых вядомых газет Швецыі "Апошняя дыктатура ў Еўропе". Звязу беларусаў Швецыі ўдалося звярнуць увагу шведскіх палітыкаў да праблем Беларусі. На апошнія акцыі, разам з сябрамі Звязу беларусаў Швецыі выйшлі прадстаўнікі шведскіх партый, а таксама члены парламенту Швецыі. Як заявіла Сесілія Вігстрэм, член парламенту Швецыі, якая часта бывала ў Беларусі: "Шведскія палітыкі заклапочаны сённяшняй сітуацыяй у краіне, мы павінны надаваць яшчэ больш увагі, аказваць падтрымку дэмакратычным сілам у Беларусі", заявіла яна .

Звяз беларусаў Швецыі таксама цесна супрацоўнічае з Еўрапейскай уніяй беларусаў. Дзякуючы згуртаванасці, сумесным дзеянням беларускіх суполак у Еўропе, было прынята апошняе рашэнне Еўразвязу аб недапушчальнасці ўезду ў Еўропу асобных беларускіх палітыкаў. На з'ездзе, які праходзіў у Бельгіі і Чэхіі, Івонка Сурвіла выказала сваю цікавасць да Звязу беларусаў Швецыі, паабяцала наведаць Стакгольм у бліжэйшы час.

**ВЫГНАННІКІ.**

Божа! Беражы, сцеражы нас у Чорнай Бядзе.
Наш шлях па чужыне далёкай ідзе.
Мы выгнаны з дому, ад родных вуглоў,
Ды верым, што хутка зноў прыдзем дамоў.
Не бяда, не бяда, што нас не чакаюць,
Прыйдзе той час, і ўсе нас прызнаюць.

Дай нам сілы для службы радзімаму краю.
Хай нялітасць абходзіць нас, абмінае.
Дай нам сілаў набрацца ў чужой старане,
Каб потым Радзіме аддаць іх удвайне.
Мы думкамі разам з народам сваім,
Волю, свабоду ў барацьбе адстаім.

***Зміцер Кузьміцкі, Швецыя.***

**За летнія месяцы Бібліятэка ТБМ папоўнілася новымі выданнямі па гістарычнай, сацыяльнай і літаратурнай тэматыцы. Сярод паступленняў — гэтыя і іншыя кнігі:**

***Баршчэўскі Л. Літаратура ад старажытнасці да пачатку рамантызму:*** *Папуляр. нарысы. — Менск: Сэр-Віт, 2003. — 512 с.*

***Беларусь: Нераскрытыя злачынствы найноўшай гісторыі.*** *— Менск, 2004. — 32 с.*

***Быкаў на "Свабодзе"*** */ Рэд. і ўклад. С.Навумчык. — 2004. — 536 с.*

***Даклад аб чалавечым развіцці: Культурная свабода ў сучасным разнастайным свеце.*** *— Менск, 2004.*

***Другі і Трэці з'езды беларусаў свету:*** *Матэрыялы і даклады / МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"; Уклад. А.Макоўскай. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 372 с.*

***Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопіса "Моладзь" (1948-1954) /*** *Уклад. М.Скобла. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 444 с. — (Бібліятэка "Бацькаўшчыны")*

***Мой малітоўнік*** */ Пераклад на бел. М.Бадрусёва. — Менск, 2004. — 288 с.*

***Нашчадкі змагарнай славы:*** *Сачыненні пераможцаў дзіцячага конкурса (люты—сакавік 2004) / МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". — Менск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 168 с.*

***Таболіч А. Таямніцы мастацкага перакладу:*** *English — Belarusian. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2004. — 148 с.*

***Трусаў А. Падсумаванні:*** *Артыкулы. Спіс публікацый. — Менск, 2004. — 72 с.*

*Ласкава запрашаем у Бібліятэку. Наш адрас — Румянцава, 13.*



# Суд над *беластоцкай* „Нівай"

Пры канцы верасня сяброў Управы Праграмнай Рады Тыднёвіка „Ніва" абвінавацілі ў парушэнні закону аб рахункаводстве. Пяці членам Управы ставіцца закід у нязгодным з законамі выдаткаванні датацыі на выдавецкую дзейнасць. Дакладнага зместу гэтага абвінавачання без юрыдычных і бухгалтарскіх ведаў немагчыма прыблізіць, але ў вялікім скарачэнні выглядае гэта так, што члены Управы вінаватыя ў тым, што бухгалтарка не запоўніла ці дрэнна запоўніла нейкія дакументы. Ад самага пачатку, калі пачалася акцыя Найвышэйшай кантрольнай палаты ў рэдакцыі „Нівы", вядома было, што шукаюцца падставы для нейкага скандалу. А калі дзяржаўная ўстанова шукае, заўсёды можа нешта знайсці. Як гаварыў сталінскі пракурор: „Пакажыце мне чалавека, а адпаведны закон знойдзецца". Удар па „Ніве" быў дасканала запланаваны і па ўсім відаць у ім інтэлект прафесійных правакатараў.

Пасля аб'яўлення вынікаў усеагульнага перапісу насельніцтва ад 2002 г. (амаль 50 тысяч польскіх грамадзян назвала сябе беларусамі) мясцовыя нацыяналісты прыйшлі да вываду, што працэс асіміляцыі беларусаў моцна прытармазіўся і трэба яму паспрыяць адміністрацыйна-рэпрэсіўнымі метадамі. Спачатку кінуліся яны на „Ніву", якую палічылі найбольш стабільным фактарам, што спрыяе захаванню беларускай тоеснасці. Пасля паўтарамесячных пошукаў у ніўскіх дакументах функцыянерам беластоцкай Дэлегатуры НІК Робертам Скварко, улады гэтай установы, якія ўзначальвае дырэктар Антоні Януxта, пачалі інфамацыйную вайну супраць „Нівы", а пасля паведамілі пракуратуру ў парушэнні шматлікіх законаў кіраўніцтвам Праграмнай Рады. Форма і змест дакументаў дасланых Дэлегатурай НІК паказвае, што выдавецкая дзейнасць Праграмнай Рады пагражае бюджэтам польскай дзяржавы, ваяводскага і гарадскога самаўрадаў. Ваяводскі самаўрад даў нам, напрыклад, адну тысячу злотых на выданне адной кніжкі.

Другая атака з боку НІК пайшла на школы, у якіх як прадмет вывучаецца беларуская мова. У кантраляваных школах функцыянеры патрабавалі ад дырэктараў дэкларацый бацькоў, якія хочуць, каб іх дзеці вывучалі родную мову. Дэкларацыямі вельмі паспяхова знішчалася беларускае школьніцтва ў міжваенны перыяд і сямідзесятыя гады. Сёння выглядае на тое, што пачынаюць выкарыстоўваць гэты праверaны метад для змагання з астаткамі беларускага школьніцтва.

Згодна з традыцыяй эпохі Мечыслава Мочара (у 1964-1968 гг. міністра ўнутраных спраў) у пракуратуры весці расследванне ў справе „Нівы" назначылі самых „-укаў", што, як вядома, дае стопрацэнтную гарантыю выканання пастаўленых ім загадаў, а пры тым можна будзе паказаць, што ніякія палякі з антыбеларускім шаленствам не маюць нічога супольнага. Арганізатары гэтай правакацыі чамусьці разлічваюць, што не зможам адрозніць ініцыятараў ад выканаўцаў.

Абвінавачанне сяброў Управы Праграмнай Рады - гэта своеасаблівая інфармацыя для ўсіх актыўных беларусаў, якой змест прыблізна такі: „Польская дзяржава мае дастаткова патэнцыял, каб бяскарна вас прынізіць, прывесці ў стан злачынцаў і зрабіць усё, што заўгодна". Адзінай віной сяброў Управы з'яўляецца тое, што далі яны сваю згоду стаць іх членамі, а сваю функцыю выконвалі на грамадскіх пачатках. Так патрабуе статут Праграмнай Рады.

Камусьці вельмі хочацца ўчыніць нас грамадзянамі другой катэгорыі. Ведаюць, што ўсё ў адносінах да беларусаў можна рабіць бяскарна, ніхто не будзе абараняць нашых інтарэсаў, а мы настолькі дэзінтэграваныя, што не можам нават пратэставаць супраць адкрытай дыскрымінацыі. А прытым як нейкас правіла дзейнічае закон, што калі толькі пачынаецца змаганне з беларускім рухам на Беларусі, з невялікім спазненнем такі працэс наступае ў Польшчы. Так было ў трыццатыя і сямідзесятыя гады XX стагоддзя. Толькі метады бываюць розныя, мэты падобныя — знішчэнне беларускага нацыянальнага жыцця.

У 1938 г. дакладна такімі самымі метадамі, якія цяпер прымяняюцца ў змаганні з „Нівай", ліквідавалі ўсе беларускія культурныя, выдавецкія і гаспадарчыя ўстановы ў II Рэчы Паспалітай. У 1967 г. ліквідацыю яўрэйскага руху пачыналі ад фінансавага кантролю культурных і выдавецкіх устаноў. Пару месяцаў пазней, пры вопleскax натоўпу, адбыўся маральны і палітычны лінч яўрэйскай грамадскасці ў Польшчы. Цяпер, калі Польшча стала ўжо членам Еўрасаюза, усе суперпатрыёты знялі маску еўрапейцаў. Найлепш гэта было відаць падчас дыскусіі ў справе „Закону аб нацыянальных меншасцях".

Найгоршае стане тады, калі нацыяналістам паланіцце запалохаць тых апошніх беларусаў, якія праяўляюць яшчэ волю нешта рабіць. Будзе гэта не толькі іх вялікая перамога, але адначасова пачатак развалу таго, што ўдалося зрабіць у апошніх гадах. Час, які наступае, на жаль, не будзе спрыяльным нацыянальным меншасцям. Палітычныя крызісы найчасцей выклікаюць агрэсію ў адносінах да „іншых". Раней ахвярай былі найчасцей яўрэі, сёння нацыянальныя эмоцыі палітыкі могуць кіраваць толькі супраць беларусаў. Гэта дае ім палітычны капітал. Магчыма, стануць нас абвінавачваць у нацыяналізме, сепаратызме, тэрарызме ці невядома яшчэ ў якіх злачынствах. Спробы прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў — Найвышэйшай кантрольнай палаты і пракуратуры зрабіць злачынцамі выдаўцоў „Нівы" паказваюць, што ў Польшчы ўсё магчымае.

Яўген МІРАНОВІЧ.

## Улады прыпынілі выхад *маладзечанскай* "Рэгіянальнай газеты", якая мела наклад 10,000 асобнікаў і выходзіла цалкам на беларускай мове

Праца "Рэгіянальнай газеты" прыпынена ўладамі на тры месяцы. "Рэгіянальная газета" — незалежнае выданне, якое асвятляе падзеі Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага, Валожынскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў. Летась падобным чынам сярод іншых прыпыняўся выхад "Белорусской деловой газеты" і газеты "Навінкі".

"Рэгіянальная газета" — самае буйное незалежнае выданне Паўночна-Заходняй Беларусі: мае каля 10 тысяч асобнікаў накладу, выходзіць цалкам на беларускай мове і цалкам самаакупнае.

Галоўны рэдактар Аляксандар Манцэвіч сітуацыю каментуе наступным чынам: "Гэта палітычна матываванае рашэнне, прынятае напярэдадні рэферэндуму і выбараў. Нават фармальныя прычыны не вытрымліваюць ніякае крытыкі".

Міністэрства інфармацыі знайшло дзве прычыны дзеля прыпынення "Рэгіянальнай газэты". Папершае, выданне зарэгістраванае як агульнадзяржаўнае, а распаўсюджваецца толькі ў Маладзечанскім рэгіёне.

А па-другое, укладыш з праграмай мае меншы фармат, чым асноўнае выданне.

Аляксандар Манцэвіч тлумачыць, што газета мае падпісчыкаў і па-за Маладзечанскім рэгіёнам, а змена фармату ўкладыша — распаўсюджаная з'ява сярод шэрагу дзяржаўных газет.

Аргументы галоўнага рэдактара газеты засталіся без увагі.

*Севярын Квяткоўскі, Менск.*

## *У Лідзе* адноўлена выданне беларускамоўнай газеты "Тэлескоп"

Тэлескоп

Наднямонская краёвая газета

Газета выходзіць са снежня 1997 года № 1 (188) пятніца 1 кастрычніка 2004 г.

У НУМАРЫ: 2 ст. Навіны Наднямоння | 3 ст. Навіны з усёй краіны | 4 ст. Адукацыя | 5-8 ст. Тэлепраграмы ад "Тэлескопа"

Слова рэдактара

Гарадзенскай вобласці - 60

У Лідзе адноўлены выхад газеты "Тэлескоп". Гэта ўжо пятая спроба паставіць газету на ногі.

Выданне газеты ўзяла на сябе Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", галоўны рэдактар "Тэлескопа" Станіслаў Суднік.

Само сабой газета становіцца цалкам беларускамоўнай. Па-руску друкуюцца толькі тэлепраграмы, паколькі для іх перакладу не стае сілаў, ды і няма вялікага сэнсу.

У новай версіі газета спланавана, як наднёманскае краёвае выданне.

Пакуль што газета скіравана на Ліду і Масты, але ў самай блізкай будучыні плануецца друк матэрыялаў з Гародні, Шчучына, Карэлічаў. Можа на гэты раз старт будзе больш шчаслівым, і газета ўтрымаецца на рынку

*Наш. кар.*

### Зварот да сяброў і прыхільнікаў ТБМ

**Дарагія сябры!**

Дзякуючы Вашай фінансавай падтрымцы, сядзіба ТБМ працавала без перапынку ўсё лета і верасень, прычым у верасні нават у суботу. "Наша слова" выходзіла рэгулярна, на 8-12 паласах, вялікім - да 5000 асобнікаў - накладам. Мы здолелі выпусціць і некалькі нумароў "Новага часа", а таксама каляндарыкі і плакаты, прысвечаныя юбілею Васіля Быкава і юбілейны канверт да 15 угодкаў ТБМ.

Аднак усе нашыя фінансавыя сродкі падыйшлі да канца, і зараз я звяртаюся да Вас з просьбаю аб дапамозе. Па-першае, гэта сяброўскія складкі ад тых, хто іх яшчэ не здаў, а таксама Вашыя ахвяраванні. Спісы ахвярадаўцаў з іх згоды мы рэгулярна друкуем у "Нашым слове".

*З павагай і ўдзячнасцю за самаадданую працу*

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

## Заява

## Асацыяцыі беларускіх журналістаў у Польшчы

*У сувязі з наступам польскіх уладаў на беластоцкую беларускую газету "Ніва" Асацыяцыя беларускіх журналістаў у Польшчы 29 верасня 2004 года выступіла з заявай, у якой у прыватнасці гаворыцца:*

"У апошні час з непакоем назіраем за зменай польскай палітыкі ў адносінах да беларусаў у Польшчы. Праверкі праведзеныя Найвышэйшай кантрольнай палатай у рэдакцыі штотыднёвіка „Ніва" і ў школах, у якіх вывучаецца беларуская мова, выклікаюць уражанне запланаванай расправы з цэнтрамі нацыянальнага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці.

Абвінавачанне Раённай Пракуратурай Беласток-Поўдзень Управы Праграмнай Рады Тыднёвіка „Ніва" ўспрымаем як форму запалохвання беларускай грамадскасці, каб тая баялася ўключацца ў любую публічную дзейнасць. Прадстаўнікі польскіх улад і ўстаноў даюць беларусам перад выбарамі выразны сігнал, што распараджаюцца сродкамі і адпаведна падрыхтаванымі кадрамі, здольнымі кожнага грамадзяніна, які праяўляе незалежную думку, бяскарна прыніжаць, абвінавачваць, выкарыстоўваючы багаты набор рэпрэсіўных сродкаў, якія прымяняліся ў мінулых дзесяцігоддзях.

Пашырэнне дзеянняў супраць беларускага руху стала заўважальным пасля абнародавання вынікаў усеагульнага перапісу насельніцтва ад 2002 года, які паказаў існаванне амаль 50-тысячнай неапалячанай грамадскасці.

Упершыню ад сямідзесятых гадоў пастаноўлена з такой рашучасцю выкарыстаць дзяржаўны апарат для абмежавання беларускага нацыянальнага жыцця.

Гістарычны досвед паказвае, што заўсёды, калі пачынаўся пераслед беларускага руху на Беларусі, неадкладна падобны палітычны працэс у адносінах да беларускай меншасці ініцыяваўся ў Польшчы. З прыкрасцю сцвярджаем, што нават далучэнне Польшчы да Еўрапейскага Саюза не змяніла гэтую традыцыю.

Асацыяцыя Беларускіх Журналістаў салідарызуецца з сябрамі з Праграмнай Рады Тыднёвіка Беларусаў у Польшчы „Ніва" і пратэстуе супраць метадаў, якія прымяняюцца адміністрацыяй у адносінах да іх."

